www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 64 (4316)**

14 жніўня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## «Скаргу адхіліць...»

*Усе журналісты, якія былі затрыманы на мінулым тыдні па так званай "справе БЕЛТА", на волі. Некаторыя з іх спрабуюць дабіцца таго, каб затрыманне прызналі незаконным і неабгрунтаваным.*

Адным з першых, хто спрабаваў аспрэчыць законнасць затрымання, стаў адвакат журналіста "Нямецкай хвалі" **Паўлюка Быкоўскага.** Разгляд скаргі адбываўся ўчора днём у судзе Партызанскага раёна сталіцы.

"Адвакат абскарджваў *законнасць майго затрымання,* – сказаў Быкоўскі. – *Ён пісаў скаргу тады, калі я знаходзіўся ў ізалятары. На 13 жніўня быў прызначаны разгляд скаргі, але раней я ўжо быў вызвалены. Тым не менш суд адбыўся. Ён праходзіў у закрытым рэжыме, і я не магу гаварыць пра дэталі з залы суда. Рашэнне вынесена: скаргу адхіліць*".

Не выключана, што Быкоўскі будзе абскарджваць гэтае рашэнне.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ЗДАРЭННЕ

## Аварыя ля ЦУМа



*Учора ў другой палове дня на праспекце Незалежнасці ў Мінску адбылося сур'ёзнае сутыкненне машын.*

*Побач з ЦУМам не змаглі раз'ехацца тры аўтамабілі. На месцы працавалі ратавальнікі, аператыўна-следчая група, тры брыгады медыкаў.*



(Фота БЕЛТА.)

У НУМАР!

## У Оршы Лукашэнка сказаў, за што чыноўнікаў часам ненавідзіць народ

У першую чаргу – за безгаспадарчасць, за "бязладнасць і непарадак". Менавіта гэта заўважыў Аляксандр Рыгоравіч, наведваючы ўчора Аршанскі інструментальны завод. *"Не любіце вы людзей, не любіце вы завод. Калі ўжо робіце тут нейкую паказуху, зрабіце бардзюр, навошта ў траву класці асфальт? Гэта што, культура?"* – сароміў Лукашэнка кіраўніцтва прадпрыемства.

Яшчэ больш сапсаваўся настрой у прэзідэнта, калі ён наведаў вытворчыя цэхі. На арэхі дасталася як дырэктару завода Уладзіславу Бардзюкову, так і міністру прамысловасці Віталію Воўку. *"Хутчэй за ўсё, міністра сюды накіруем да цябе працаваць. У яго выбар адзін: або турма, або сюды, – публічна аб гэтым кажу. Пакуль двойка з мінусам, і да цябе прэтэнзій шмат. Ніколі не займайся ашуканствам. Ты – малады кіраўнік. Ты тут галоўны. Не дай Бог я перад Новым годам прыеду, і маё вока зачэпіцца за што-небудзь. Ты ведаеш, што будзе..."*

Абурэнне Лукашэнкі невыпадковае. Справы на заводзе ідуць, як кажуць, цераз пень-калоду. Нізкая прадукцыйнасць працы, мноства тэхналагічных парушэнняў. Адсюль і плачэўныя вынікі. А значыць, і нізкія заробкі. Заўважыўшы, у якіх непрыглядных умовах даводзіцца стаяць ля станкоў, А.Р.Лукашэнка адкрытым тэкстам выпаліў: *"Хіба гэта рабочыя месцы? Турма нейкая! Катаржныя людзі працуюць за 200 долараў у месяц!"*

Аляксандр Рыгоравіч патлумачыў, чаму трэба тэрмінова навесці парадак на Аршанскім інструментальным заводзе. Таму што "Гомсельмаш", МТЗ, МАЗ і ўсе іншыя прадпрыемствы, нават перапрацоўкі і сельскай гаспадаркі, чакаюць добрага інструменту.

Што і казаць, доўга будуць помніць у Оршы наведванне А.Р.Лукашэнкам інструментальнага завода.

**Аркадзь ПАДГУРСКІ.**

ПРЫСУД

## 3 гады турмы і 3 гады «хіміі»

*Суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес прысуд у гучнай справе аб збіцці эканаміста Сяргея Чалага і яго сябра Анатоля Сакалоўскага.*

Суддзя Таццяна Акавітая прысудзіла Аляксандру Рублёву 3 гады зняволення, Кірылу Доўнару – 3 гады абмежавання волі ва ўстанове адкрытага тыпу (так званай "хіміі").

Пацярпелыя патрабавалі ад падсудных яшчэ грашовай кампенсацыі за маральныя пакуты: Чалы – 5 тысяч рублёў, Сакалоўскі – 500 рублёў, паведамляе Радыё Свабода.

Суд пастанавіў спагнаць на карысць Чалага 1 тысячу рублёў і судовыя выдаткі больш за 1 тысячу, на карысць Сакалоўскага – 250 рублёў.

БЛИЦ

## Вы замечаете, как растут цены?

**Александр БУХВОСТОВ, председатель Свободного профсоюза металлистов:**

– Ползучее повышение цен невозможно не заметить. Ну вот даже хлеб взять. Обычно перед подорожанием сразу появляются новые сорта хлеба, которые стоят на порядок выше уже известных. И получается, что 300 граммов хлеба стоит около рубля. А килограмм – больше трех рублей. Полтора доллара за килограмм хлеба – это нормальный такой европейский уровень цен. Только замечу, что зарплаты и пенсии у нас – не европейские, а белорусские. И растут не такими темпами, как цена на хлеб.

Про мясо ничего не скажу – я много лет не ем мяса. А цены на фрукты и овощи колеблются в зависимости от сезона. Сейчас, например, на рынке подешевели помидоры, а огурцы дорожают, потому что уже отходят. Должны будут упасть цены на яблоки – год яблочный, урожайный.

Еще один индикатор – лекарства. Каждый раз цена на одни и те же препараты повышается, это хорошо заметно по тем медикаментам (особенно импортным), которые принимаешь постоянно.

Если власть перейдет на 100-процентную оплату жилищно-коммунальных услуг, денег у людей вообще останется меньше. И самое неприятное, что радужных перспектив не видно.



**Анастасия ДАШКЕВИЧ, общественная активистка, мать двоих детей:**

– Честно говоря, не очень. На мой взгляд, особенно рост цен был заметен после деноминации, тогда как-то цены просто стремительно рванули вверх. А сейчас... Может, цены и растут, но чтобы уж совсем так критично... Я обычно сама покупаю продукты, но не заметила резких скачков в последнее время. Обратила внимание на другое: в Минске очень разные цены в магазинах. Например, в магазинах сети "Брусничка" молоко будет стоить значительно дешевле, чем в той же "Короне". Но для нас это не настолько критично, чтобы я думала, в какой магазин поехать на закупку.

**Петр КОЗЛОВ, министр торговли Беларуси в 1995–2001 годах:**

– Конечно замечаю! Денег в кошельке становится все меньше и меньше...

Хотя при стабильном курсе должны быть и стабильные цены. Но они растут!

Мы слабо насыщаем бюджет за счет производства наших товаров, за счет развития промышленности – и тяжелой, и легкой. А от того, что мы вкладываем, например, в сельское хозяйство, отдача пока очень слабенькая. Мы не внедряем новые технологии, не производим современную качественную продукцию. Многое сделано, но этого недостаточно...

**Леонид ЗАИКО, кандидат экономических наук:**

– Вообще-то официально идет дезинфляция, и цены снижаются. А если вы этого не замечаете, значит, та группа товаров, которой вы пользуетесь, имеет тенденцию к росту. Например, куриные яйца стоят 89–99 копеек, а были по 1,45–1,60 рубля. Вот прямо сейчас делаю себе яичницу из 10 яиц за 89 копеек – дешевле вряд ли кто может пообедать. Покупаю яйца, кстати, в «Златке». Поэтому сегодня утверждение о том, что цены растут, – это метод вульгарной политэкономии.

Я каждый день хожу в магазин. Вижу, что дороже стала минеральная вода. Но это конкурентные товары, можно и дешевле покупать. Есть торговые компании, которые пытаются за счет потребителей решить собственные проблемы и неудачный менеджмент.

А вообще нужно знать, в какие магазины ходить, предварительно проводить маркетологические исследования. Например, мой сын покупал арбузы по 48 копеек, а в другом магазине они стоят 79 копеек.

У белорусов наблюдается некорректное восприятие своей собственной ситуации. Когда независимые социологи еще в 1990-х годах проводили опросы среди населения, то люди говорили: мол, нищаем, зарплата падает, жить стали хуже, цены растут. И в то время, когда они так говорили, у них зарплата выросла в три раза! А в этом году знаете, насколько мы «обнищали»? В этом году благодаря неустанной заботе правительства номинальная зарплата выросла на 18,6 процента. Поэтому какой рост цен, когда зарплата растет?..

**Анастасия ДОРОФЕЕВА, председатель партии «Зеленые»:**

– Я сама родом из Мозыря Гомельской области. Так вот я замечаю, что у моих друзей, которые там живут и работают, например, преподавателями в местном техникуме, зарплата уже пару лет вообще не меняется. А цены растут! И в регионах рост цен особенно чувствителен. Мне кажется, некоторые категории продуктов в регионах стоят даже дороже, чем в Минске. Сейчас бензин подорожает, и цены снова поползут вверх...

А что касается шока от постоянного повышения цен, то, мне кажется, его сейчас вряд ли кто-то испытывает. Это как в той байке про лягушку, которая попадает в воду. Если ее кинуть сразу в горячую воду – она выпрыгнет, а если посадить в холодную и медленно нагревать, то сварится. Так мне кажется: у нас люди сейчас реагируют на очередное повышение цен так же, как лягушка на холодную воду...

**Марина КОКТЫШ.**

ВІНШУЕМ!

## З 70-годдзем, Іван Міхайлавіч!


А.Лукашэнка, І.Каратчэня і Б.Ельцын (1997 г.)

Як хутка бяжыць час!

Здаецца, зусім нядаўна ён скончыў школу ў Любанскім раёне, затым Краснабярэжскі сельгастэхнікум, Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, працаваў галоўным аграномам, намеснікам старшыні калгаса, начальнікам райдзяржсемстанцыі, начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі, першым намеснікам старшыні Уздзенскага райвыканкама, першым сакратаром Вілейскага гаркама партыі, з'яўляўся членам Прэзідыума, старшынёй Камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання.

У студзені 1992 года рашэннем Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД быў прызначаны каардынатарам Рабочай групы, а з 1993-га па 1998 год – Выканаўчым сакратаром СНД. Пасля выхаду з вялікай палітыкі – на выкладчыцкай рабоце ў Маскве. Доктарскую дысертацыю ён абараніў у 1996 годзе па тэме "Стратэгія і перспектывы фарміравання эканамічнага саюза краін СНД".

Учора Іван Міхайлавіч Каратчэня прымаў віншаванні з 70-годдзем. "Народнай Волі" стала вядома, што лісты з цёплымі словамі даслалі Наталля Качанава, глава Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Сяргей Лебедзеў, старшыня выканаўчага камітэта СНД, і многія іншыя.

**Генадзь КРАЎЦОЎ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Что – от Бога, а что – от дьявола

Посещая Гомельскую детскую областную клиническую больницу, глава белорусского государства заявил: «Нас еще бог бережет за счет этой «диктатуры» и авторитаризма, за что нас критикуют. Экология ухудшается, и дети не все рождаются без патологии».

Получается, что диктатура и авторитаризм – от Бога, а демократия, надо полагать, от дьявола. Та самая демократия, на волне которой в 1994 году Александра Лукашенко избрали президентом Беларуси.

Но сейчас речь не об этом. Речь об ухудшении экологии.

Слова о ее ухудшении были произнесены в Гомеле – областном центре, наиболее пострадавшем от последствий Чернобыльской аварии. В том самом городе, где в 1986 году, как уверяли меня многие гомельчане, на первомайскую демонстрацию школьников выводили колоннами по приказу свыше (не от Бога, но от партийного начальства), чтобы продемонстрировать отсутствие опасности: не приведи господь паника случится. 1986 год – еще до демократии, еще в нашей богоспасаемой республике авторитаризм в полном разгаре. Об аварии на ЧАЭС можно узнать либо из слухов (есть ведь телефоны, у многих родственники в Украине), либо из «вражеских» голосов.

Минули годы. И вот на фоне укрепления богоспасаемых авторитаризма и диктатуры белорусское руководство принимает решение использовать на всю катушку те земли, на которые в 1986 году просыпались осадки из радиоактивных облаков, шедших с территории Украинской ССР и, как говорят, «осаженных» на территории Белорусской ССР, чтобы не допустить заражения московского мегаполиса. Раздаются возражения. Среди возражающих – и аграрии (самым громким был голос Ивана Никитченко), и врачи, за которых пришлось отдуваться Юрию Бандажевскому. Но в авторитарном государстве власть слышит только тех, кого хочет слышать. Никитченко не услышали, Бандажевского услышали против своей воли, за что и посадили на шесть лет. На не до конца очищенных землях сеяли и пасли скот. Поскольку продать продукцию за пределы синеокой нашей родины было невозможно (всюду радиологический контроль), кормили этим наших сограждан, белорусов.

Сейчас нам говорят об ухудшении экологической ситуации в регионе.

Да что вы говорите?! Вы это только сейчас обнаружили, на двадцать пятом году авторитаризма и диктатуры? До сих пор что – Бог спасал, а тут вот резко, раз – и оно как-то само по себе ухудшилось?

Будь у нас полновластный парламент с ответственным правительством, уже в момент принятия решения об использовании зараженных земель депутаты поставили бы вопрос об открытии данных и как минимум о привлечении независимых (в том числе зарубежных) специалистов для изучения вопроса. Но у нас, в условиях авторитаризма и диктатуры, данные получить можно лишь те, которые полностью подтверждают мнение высшего начальства, а все, что способствует сомнениям, – да упаси Господь нас от такой демократии! От лукавого демократия, так и запомните!

Хорошо. Забудем о Чернобыле. Будем помнить только о медицине – той ее части, которая финансируется из государственного бюджета, то есть налогоплательщиками. Я живу в столице нашей родины городе-герое Минске, где дело со здравоохранением обстоит еще более-менее. Так получилось: весь прошедший год боролся с язвой желудка, вот и сейчас мне необходимо глотать зонд примерно раз в квартал. Направление мне выписали, но нужно записываться в городской диагностический центр. Позвонил я туда в начале августа, а предложили мне записаться аж на конец сентября. А в моей «родной» поликлинике соответствующую процедуру не делают. Звоню в поисках платной услуги – а она входит в перечень бесплатных, потому мне оказать ее не могут.

Это ж как наша диктатура укрепила систему здравоохранения, что сократила процедуры, бывшие в советские времена в каждой районной поликлинике!.. Понятно: меня Бог должен беречь, а о государственных служащих высшего ранга есть кому позаботиться. И коррупция при государственных закупках, и беспамятство медицинских начальников, когда им напоминаешь про клятву Гиппократа, – это все от демократии? Простите, не верю.

Можно изобразить прекрасную картинку: врачи в новом, чистом медицинском учреждении окружают пациента №1 и рассказывают ему о том, как все у них прекрасно. Хватает оборудования, медикаментов, персонала, а персоналу соответственно хватает зарплат… И пациент №1 с облегчением вздыхает: вот, все в порядке, авторитаризм и диктатура нас берегут.

Не верю, друзья мои, не верю! В стране, где силовые структуры, призванные охранять власть от избирателя, получают бюджет больший, чем государственная система здравоохранения, берегут не нас. Боюсь, и не вас. И даже – не их.

А кого?

Не знаю. Спросите Бога, он, быть может, ответит.

КУЛУАРЫ

## Мечислав ГРИБ: «Не мне должно быть стыдно, а им…»

*Пару дней назад министр внутренних дел Игорь Шуневич специальной телеграммой в милицейской ведомственной газете поздравил сотрудников и ветеранов органов внутренних дел Витебщины со 100-летием образования областной милиции.*

*«Какой станет витебская милиция в будущем – зависит от каждого из вас», – отметил Шуневич.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, получил ли персональную поздравительную открытку по этому поводу генерал-лейтенант милиции Мечислав Гриб, который с 1985 года был назначен начальником управления внутренних дел Витебского облисполкома. И, кстати, сразу после назначения возглавил расследование так называемого «витебского дела» о серийном сексуальном маньяке-убийце, прогремевшего на весь Советский Союз.*

– Я не получал ни открыток, ни телеграмм, даже звонков мне по этому поводу никаких не было, – *ответил Мечислав Иванович.* – Но дело в том, что у них такая политика – меня просто не замечать. А если быть более точным – в упор не видеть.

**– Интересно, а медаль, которую учредили к 100-летию белорусской милиции, вы получили?**

– Подобные медали выпускали и к 80-летию, и к 90-летию создания белорусской милиции. Я 36 календарных лет отслужил в милиции и мне никто спасибо не сказал. И никаких медалей не предлагали получить.

**– На самом деле это странно. Потому что эту юбилейную медаль получили даже некоторые артисты шоу-бизнеса и телеведущие. Получается, они заслужили, а вы – нет?**

– Я очень спокойно к этому отношусь. Есть медаль или нет медали – какая разница?

**– В положении о медали, кстати, написано, что ею награждаются *«ветераны органов внутренних дел … внесшие значительный вклад в развитие и совершенствование деятельности в сферах борьбы с преступностью, охраны правопорядка и обеспечения общественной безопасности»*. Вы были довольно известным начальником УВД, успешно провели расследование резонансного дела, которое, кстати, до сих пор вспоминают… И какую-то персональную открытку, мне кажется, могли бы вам отправить – не такие уж большие расходы.**

– Ну что сделаешь, если нынешнее руководство МВД так воспитано…

Меня ведь вообще ни с какими праздниками не поздравляют – ни с Новым годом, ни с Днем милиции. Правда, когда был жив глава Республиканского совета ветеранской организации МВД Виктор Алексеевич Пискарев, я от ветеранской организации получал несколько приглашений на мероприятия – у нас с Виктором Алексеевичем были неплохие личные отношения. А вот от имени руководства МВД никаких знаков внимания никогда не было. Я вроде бы есть, но в то же время меня как бы нет.

Но это не мои вопросы, а их. Мне не стыдно говорить о том, что вот так происходит. А им, мне кажется, должно быть стыдно…

**Марина КОКТЫШ.**



**На фото: Мечислав Гриб и Павел Козловский. Бывшего министра обороны генерал-полковника Павла Козловского (на фото справа) официальные власти тоже забыли и всячески делают вид, что его нет.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,

профессор, доктор экономических наук

## Паника на валютно-фондовых биржах России

### *Как она аукнется Беларуси?*

Сейчас результаты торгов на валютных биржах сродни вестям с фронта. Под влиянием только лишь объявленных Конгрессом США новых экономических санкций против Кремля российский рубль посыпался и потянул за собой белорусский. Торги на Белорусской валютно-фондовой бирже (БВФБ) в понедельник, 13 августа, начались весьма живо: курс российского рубля в очередной раз девальвировался, а доллар и евро существенно подорожали. В ходе торгов «американец» дорожал до 2,07 за 1 рубль, евро – до 2,36, российский рубль обваливался до 3,04 за 100 единиц.

А вот сводки за минувшую неделю: доллар подорожал на 2,09%, евро – на 0,95%, российский рубль ослаб на 3,16%. По сравнению с началом года доллар вырос на 4,21%, евро подешевел на 0,06%, российский рубль рухнул на 10,30%, белорусский рубль к валютной корзине укрепился на 4,12%. Падение российского рубля, учитывая его 50%-процентную долю в валютной корзине белорусского рубля (доля доллара – 30%, евро – 20%), перевешивает рост доллара и евро. Поэтому за минувшую неделю торгов на БВФБ наш рубль укрепился на 0,79%. Но в последние дни все внимание приковано к девальвационному пике российской денежной единицы. 13 августа на открытии торгов на Московской бирже курс доллара уже превысил отметку в 68 рублей и достиг максимального уровня с апреля 2016 года. Эти биржевые события можно трактовать как валютные шоки.

Чем же так напугали американцы участников валютного и фондового рынков России? Накануне на сайте Конгресса США был опубликован полный текст законопроекта по новым санкциям, которые могут быть наложены на Россию за вмешательство в выборы президента США, за агрессию против Украины, аннексию Крыма, хакерские атаки и прочие неблаговидные, на взгляд американского истеблишмента, дела. Документ содержит запрет американским инвесторам на покупку российского госдолга (облигаций федерального займа – ОФЗ), речь в нем также идет об аресте активов и запрете операций с ведущими российскими госбанками (Сбербанк, ВТБ, ВЭБ и др.). Не исключаются запрет на полеты в США российскому «Аэрофлоту» и почти полное прекращение американского экспорта в Россию. В документе есть пункт о признании России наряду с Ираном спонсором терроризма, что может означать и введение полного эмбарго, сравнимого с тем, что сегодня США вводят против Ирана. Помимо этого американский Госдеп опубликовал свой список санкций, связанный с делом Скрипалей (их отравление боевым газом «Новичок» в Англии).

Если документ Конгресса является только законопроектом и должен быть введен в действие через 90 дней, то санкции Госдепа вступят в силу уже 22 августа. Они предусматривают отказ от поставок в Российскую Федерацию продукции военного и двойного назначения – прежде всего электронных устройств и их компонентов.

Почему же на то, что еще на бумаге, так отреагировали рынки РФ?

Среди держателей ОФЗ порядка 28% – это нерезиденты. Вредность американских санкций в том, что любые компании и фирмы из любых стран, которые их игнорируют, автоматически попадают под удар американских властей. Реакция может быть непредсказуемой. Иностранные владельцы российских гособлигаций и акций крупных российских компаний уже начинают, как говорят, их «сливать», что есть масштабный уход иностранного капитала с российских рынков и что уже отразилось на снижении котировок ценных бумах и индексов бирж. Если крупнейшие российские банки лишат возможности работать с долларовыми операциями, это будут уже не банки. Самое худшее, если дело дойдет до эмбарго на российский нефтяной экспорт. Либо американцы могут в союзе с Саудовской Аравией вновь, как это они сделали в 2014 году, обвалить мировые цены на нефть. США и саудовцы сейчас наращивают добычу «черного золота».

Не факт, что все эти намеченные санкции будут реализованы. Однако паника на российских биржах уже началась. Для экономических властей Беларуси пока встает задача, как грамотно отреагировать на валютные шоки, особенно на девальвацию российского рубля, чтобы не повторить ошибок, допущенных в подобной ситуации в конце 2014 года. Пока Центробанк РФ не вмешивается в процесс курсообразования своей валюты. Как известно, слабый российский рубль при укрепляющемся относительно его белорусском рубле – выгодная ситуация для российских экспортеров, равно как невыгодная для белорусских экспортеров в Россию. За белорусский экспорт россияне рассчитываются своими подешевевшими денежными знаками, а российские товары более конкурентоспособны на белорусском рынке. До сего дня Нацбанк не ослабляет нашу денежную единицу. Потому что это чревато дополнительной инфляцией.

В силу последних событий российская кредитная поддержка Беларуси может уменьшиться. У России есть с чем пережить новые санкции, их золотовалютные резервы восстановились под 500 млрд долларов. За последние три дня российский Минфин в качестве естественной реакции на санкции скупил на валютном рынке более 30 млрд «зеленых». Это же делает и Центробанк РФ. Хотя российские банки уже испытывают дефицит валюты. Белорусские валютные резервы, как всегда, на минимуме, а долговая ситуация на пределе. Ясно одно, белорусскому руководству станет все сложнее договариваться с российскими коллегами по принципиальным вопросам как экономического, так и политического свойства. О доступе белорусской продукции на российский рынок, о ценах на энергоносители, о рефинансировании долгов и т.д. А на время переговоров лучше иметь как можно более стабильную ситуацию у себя дома.

СТАЛІЦА

## Не хапае прыбіральшчыкаў!

*У базе дадзеных службы занятасці насельніцтва каля 700 вакансій прыбіральшчыкаў вытворчых і службовых памяшканняў.*

“Прыбіральшчыкі патрабуюцца ў бізнес-цэнтры, навучальныя ўстановы, установы аховы здароўя, гасцініцы і аб’екты гандлю, аўтапаркі, а таксама на вытворчыя прадпрыемствы горада”, – *удакладнілі minsknews.by ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама.*

РЭГІЁН

## Кітайцы плануюць набыць беларускі палац

*Кітайская дэлегацыя з правінцыі Ганьсу агледзела будынак палаца Чацвярцінскіх, які знаходзіцца ў Гродне на вуліцы Элізы Ажэшка, 20, і правяла перамовы са старшынёй Гродзенскага гарвыканкама.*



Палац Чацвярцінскіх (часцей яго называюць “былая медыцынская акадэмія”) у цэнтры Гродна знаходзіцца ў запусценні з 2014 года. Апошнім ягоным уласнікам была ваенная камендатура. У 2016 годзе гродзенскія ўлады выстаўлялі будынак на аўкцыён за 2 мільёны долараў, але жадаючых набыць яго не знайшлося.

Будынак палаца выстаўляецца на аўкцыён сёлета ў верасні. Пачатковая цана будынка – 1 мільён 200 тысяч долараў.

У былым палацы Чацвярцінскіх кітайскія інвестары маюць намер стварыць кітайска-беларускі культурны цэнтр. Калі здзелка адбудзецца, у гістарычным будынку размесціцца гасцінічна-турыстычны комплекс з рэстаранамі і офісамі.

Паводле сцвярджэння гісторыкаў, будынак медыцынскай акадэміі (школы) быў пабудаваны ў 1770-я гады. Хаця некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што першыя ўзгадкі аб з’яўленні будынка адносяцца да 1603 года. У 1795 годзе будынак разам з надзелам зямлі адышоў князам Чацвярцінскім. З сярэдзіны XIX стагоддзя частку дома здавалі паштова-тэлеграфнай канторы. Затым тут месціўся інтэрнат армейскага корпуса. Частку будынка да Другой сусветнай вайны выкарыстоўвалі пад кватэры. Пасля вайны будынак цалкам перадалі вайсковаму суду і пракуратуры.

**Алесь МІХАЛЁЎ.**



ГОНАР БЕЛАРУСІ

# Лічыў Леніна і Сталіна псіхічна хворымі

## 20 нечаканых фактаў пра Анатоля Багатырова

105 гадоў таму нарадзіўся Анатоль Багатыроў, легендарны беларускі кампазітар.

Аўтар оперы "У пушчах Палесся" (1939), за якую яму далі Сталінскую прэмію другой ступені (1941), не аднойчы ратаваў сваіх калег ад рэпрэсій.

Любіў паэзію Янкі Купалы, Петруся Броўкі, Ніла Гілевіча, на чые вершы напісаў сваю найлепшую музыку.

### 1.Прозвішча яго радні па бацькавай лініі было Багацькі. Багатыровымі сталі дзякуючы царскаму ўрадніку

"Мы былі Багацькі. /.../ Два дзедавы браты сталі Георгіеўскімі кавалерамі за Шыпку і Плеўна. Вярнуліся ў вёску героямі. Хлопцы – да ўрадніка атрымліваць дакументы. Той выслухаў герояў вайны дый кажа: "Вы ж багатыры!.." А як выпісвалі дакументы, да слова "багатыр" дадалі канчатак "оў". Вось і перайначыў ураднік Багацькаў у Багатыровых. Начальства ўсё можа..." *(Уладзімір Ліпскі. «Анатоль Багатыроў: "Нікому не рабіў зла..." // "Голас Радзімы". 29.04–6.05.1999 №№17–18).*

### 2.Здзівіў Янку Купалу сваімі варыяцыямі на тэму беларускіх народных песень

"Гэта было ў 1934 годзе, калі я яшчэ быў студэнтам кансерваторыі. У той час мне часта даводзілася выступаць на канцэртах у якасці піяніста. Аднойчы такі канцэрт адбыўся ў Доме пісьменніка. Я выконваў напісаныя мной варыяцыі для фартэпіяна на беларускую народную тэму. У перапынку да мяне падышоў Янка Купала:

– Скажыце, як гэта можна на простую песню зрабіць такія розныя, складаныя варыяцыі?

Ён быў вельмі зацікаўлены і здзіўлены... Запрасіў мяне да сябе дадому. Калі я прыйшоў, ён даў мне свае вершы "Сонцу" і "Плача восень", з якіх атрымаліся рамансы" *(Анатоль Багатыроў. "Ён быў незвычайны". // "Полымя", № 6, 1982).*

### 3.Не пабаяўся напрыканцы 1930-х выступіць супраць засланага з Масквы новага кіраўніка Беларускага опернага тэатра Фёдара Ярыкава

"Прызначаны год таму дырэктарам і мастацкім кіраўніком Ф.А.Ярыкаў нясе галоўную адказнасць за год дэзарганізаванай, бясплоднай работы тэатра. /.../ Ярыкаў абкружыў сябе групкай падхалімаў, сумесна з якой пачаў весці агідную палітыку шальмавання сумленных, але не ўгодных яму работнікаў. Так былі ашальмаваны і выгнаны з тэатра галоўны дырыжор Акулаў, галоўны рэжысёр Смоліч /.../ Кампазітар Багатыроў... быў абвешчаны Ярыкавым членам "варожай групоўкі", абвінавачаны ім у цяжкім граху – ён, Багатыроў, хадзіў да Акулава на кватэру... На апошнім сходзе работнікаў тэатра, які доўжыўся чатыры дні, сярод шматлікіх абураючых фактаў дзейнасці Ярыкава былі ўскрыты і такія: ён выклікаў у кабінет людзей (Бялова, Матусевіча) і прапанаваў ім падбіраць кампраметуючы матэрыял на тых, хто крытыкаваў работу гэтага гора-кіраўніка" *(А.Багатыроў, М.Коршнер, Е.Цікоцкі. "Аб оперным тэатры". // "Літаратура і мастацтва" №41, 27 ліпеня 1938 года).*

Неўзабаве Ярыкаў быў адпраўлены працаваць дырэктарам у Магаданскі музычны і драматычны тэатр (1941–1944 гг.), творчы калектыў якога амаль цалкам складаўся са зняволеных.

### 4.Пасля трыумфальнай прэм'еры ягонай оперы "У пушчах Палесся" быў адпраўлены на савецка-фінскую вайну

Хутчэй за ўсё, Багатырову "адпомсцілі" за ягонае дзёрзкае выступленне супраць Ярыкава. Паводле слоў кампазітара: "...Я ўдзельнічаў у савецка-фінскай вайне ў складзе славутай сотай дывізіі. На фінскі фронт трапіў, нягледзячы на моцную блізарукасць, праз памылку лекараў..." *(А.Богатырёв. "До сих пор получаю поздравления из своей дивизии…". // «Вечерний Минск» №158, 31 июля 2002 года).*

### 5.Дзед Талаш дапамагаў сцэнаграфічнаму аздабленню оперы "У пушчах Палесся"

"Народны паэт *(Якуб Колас. – **В. Дэ Эм**)*... на генеральную [рэпетыцыю] прывёз дзеда Талаша. Талаш, памятаю, вельмі дзівіўся, не мог зразумець, чаму людзі ўвесь час спяваюць і нічога не гавораць. А Колас шапнуў яму на вуха: "Гэта ж ты, Талаш!" Мастак Сяргей Нікалаеў ніяк не мог вырашыць афармленне трэцяй карціны оперы, і тады ён звярнуўся да дзеда Талаша. А той сказаў: "Там у нас вялікае дрэва ляжала..." І тады Нікалаеў /.../ праз усю сцэну паклаў "вялікае дрэва", як яму параіў дзед Талаш. Нікалаеў, дарэчы, быў выдатны тэатральны мастак, вучань Канстанціна Каровіна" *(Анатоль Багатыроў. "Эстафета ў будучыню". // "Мастацтва" №1, 1983).*



Разам з сястрой. 1934 год.





Анатоль Багатыроў разам з жонкай. 1940-я гады.

### 6.Любіў успамінаць пра свае сустрэчы са Сталіным

"Багатыроў ... любіў успамінаць пра свае сустрэчы з «правадыром усіх народаў таварышам Сталіным (дзевяць разоў Сталін выклікаў яго да сябе – у ложу Вялікага тэатра або на прыёмы ў Крэмль). Вельмі смешна капіраваў яго манеру гаварыць ("Багатыроў піша "правільную" музыку, а Шастаковіч піша "няправільную")" *(Белькевич С.О. "А.В.Богатырев: штрихи к портрету". // "Весці Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі" №20, 2012).*

### 7.Яго выкананне музыкі Рыхарда Вагнера расчуліла палонных нямецкіх жаўнераў

"Адным з яго ўлюбёных кампазітараў быў Рыхард Вагнер. Аднойчы – гэта было ў першыя пасляваенныя гады – Анатоль Васільевіч музыцыраваў за сваім хатнім раялем, іграючы сцэны з вагнераўскага "Лаэнгрына". А жыў ён тады ў двухпавярховым будынку на Берсана, насупраць Чырвонага касцёла. Гукі музыкі праз расчыненае акно даносіліся на вуліцу. Захоплены музыкай, ён не мог бачыць неверагоднай сцэны, якая разыгралася пад яго вокнамі. Аказваецца, у гэты момант міма праходзіла калона ваеннапалонных немцаў, якія, пачуўшы музыку свайго славутага суайчынніка, укленчылі, папрасіўшы канвой спыніцца, і з замілаваннем слухалі чароўныя гукі, якія лашчылі ім слых..." *(Вольга Брылон. "Адышоўшая легенда". // "Народная Воля" №181, 23 верасня 2003 года).*

### 8.Ратаваў ад рэпрэсій беларускіх кампазітараў, але адначасова і папікаў іх, што яны "мала вывучаюць савецкую рэчаіснасць"

"Тады ў мяне былі добрыя адносіны з Цанавам – сустракаўся з ім некалькі разоў за абедам... Калі я быў старшынёй Саюза кампазітараў, "чарга дайшла" да нашага калегі Мікалая Равенскага, якога таксама хацелі рэпрэсіраваць. Я пайшоў да Цанавы і заявіў, што гэты чалавек не зрабіў нічога дрэннага, і Равенскага адпусцілі. Такіх "кандыдатаў" было пяць ці шэсць. Але тады больш арыштоўвалі не кампазітараў, а пісьменнікаў" *(А.Богатырёв. "До сих пор получаю поздравления из своей дивизии...". // "Вечерний Минск" №158, 31 июля 2002 года).*

"Мяне выклікаў да сябе ў Мінску наркам унутраных спраў Наседкін – папярэднік Цанавы. І прапанаваў падпісаць санкцыю на арышт каля дзясятка беларускіх кампазітараў. Такі быў закон: члена любога творчага саюза маглі арыштаваць, калі падпісваўся яго кіраўнік. Дык вось, Наседкін спытаў, ці ёсць у гэтым спісе ворагі народа. "За што ж іх арыштоўваць?" – запярэчыў я. Ён адказаў, што Цікоцкі быў дзянікінскі палкоўнік, Аладаў – стары рускі дваранін, а Туранкоў і Чуркін, кажуць, калісьці спявалі ў царкоўным хоры ў царскай стаўцы ў Магілёве. Я сказаў, што ўсё гэта няпраўда. Тады Наседкін прыгразіў: "Падпісвайце, а то пашкадуеце..." Але я адмовіўся. І нікога з маіх калег не арыштавалі..." *(Константин Столярчук. "Музыкальный богатырь". // "Вечерний Минск" № 154, 13 августа 1998 года).*

"Нашы кампазітары мала вывучаюць савецкую рэчаіснасць... Гэтай /.../ якасцю не валодаюць і многія беларускія кампазітары, творчасць якіх да гэтага часу яшчэ знаходзіцца ў пачатковай стадыі перабудовы. Асобныя беларускія кампазітары яшчэ слаба разумеюць неабходнасць павышаць узровень свайго майстэрства. /.../ Яны не напісалі твораў усесаюзнага значэння. /.../ Ёсць яшчэ і асобныя праявы фармалізму, прыкладам чаго з'яўляюцца асобныя творы М.Аладава» *(А.Багатыроў. "Памнажаць і ўзбагачаць творы беларускай музыкі". // "Літаратура і мастацтва" №6, 10 лютага 1951 года).*

### 9.Кожную нядзелю лятаў у Ленінград, каб згуляць у покер з Шастаковічам

"... Наталля Сяргееўна *(жонка Багатырова. – **В. Дэ Эм**)* умела быць паблажлівай да маленькіх слабасцяў /.../ адзін час я падахвоціўся ледзь не кожную нядзелю лятаць у Ленінград, дзе збіралася кампанія заядлых аматараў покеру – Шастаковіч, Салярцінскі, Мравінскі, Багданаў-Беразоўскі. Жонка ніколі мяне не папракала" *(Ольга Савицкая. "Анатолий Богатырев: "Мои планы – написать новую оперу и увидеть, как начнется XXI век". "Народная газета" № 174, 4–6 верасня 1993 года).*

### 10.І ў сталінскія часы, і ў хрушчоўскую «адлігу» крытыкаваў беларускія музычныя вучылішчы за прафесійную непрыдатнасць

"У Беларусі адчуваецца востры недахоп музыказнаўцаў і кампазітараў. /.../ Нязначны прыток свежых творчых сіл і ў Саюзе кампазітараў. А ў абласных цэнтрах зусім няма кампазітараў. /.../ Чаму кансерваторыя так мала рыхтуе іх? Таму, што нашы музычныя вучылішчы, з якіх мы набіраем кантынгент навучэнцаў, слаба рыхтуюць сваіх вучняў. /.../ Музычныя вучылішчы не ўкамплектаваны кваліфікаванымі кадрамі /.../ У некаторых вучылішчах музычна-тэарэтычныя дысцыпліны вядуць выкладчыкі без спецыяльнай адукацыі. Напрыклад, у Маладзечанскім вучылішчы большасць педагогаў-тэарэтыкаў не мае спецыяльнай адукацыі. У Гомельскім музычным вучылішчы ў мінулым навучальным годзе тэарэтычныя дысцыпліны вялі спецыялісты па духавых інструментах (?)" *(А.Багатыроў, Г.Глушчанка. "Ці толькі кансерваторыя вінавата?" // "Літаратура і мастацтва" №59, 28 ліпеня 1961 года).*

"Нягледзячы на вялікі рост у пасляваенны час музычных навучальных устаноў, іх цяперашняя дзейнасць не адпавядае высокім задачам музычнай асветы. /.../ У кансерваторыі не выкладаюцца такія важныя дысцыпліны, як эстэтыка, педагогіка, псіхалогія і рад іншых". *(А.Багатыроў. "Неадкладнае пытанне". // "Літаратура і мастацтва" №3, 20 студзеня 1951 года).*

### 11.Не назаляў сваім вучням уласнымі творамі

"Вельмі часта Анатоль Васільевіч іграў класічныя музычныя творы. І вельмі важна, што ён ніколі не вучыў на тых творах, якія напісаў сам. Не паказваў, як ён працаваў над сваімі опусамі, як яны зроблены. Ён пра іх наогул не гаварыў. Не ведаю – ці ад сціпласці, ці з якой іншай прычыны. Аднойчы я пачуў па радыё фрагмент Другой сімфоніі Багатырова. Музыка мне вельмі спадабалася. Калі прыйшоў да яго ў госці, запытаўся: "Анатоль Васільевіч, ці ёсць у вас запіс Другой сімфоніі?" У адказ: "Недзе ёсць". Я папрасіў: "Знайдзіце, калі ласка..." Ён так і не знайшоў. Паблізу ў яго захоўваліся запісы Бетховена, Вагнера, Моцарта, Брамса, і ён ведаў, дзе менавіта яны стаяць. А дзе запіс уласнай сімфоніі – не ведаў" *(Алег Хадоска. "Для мяне ён дагэтуль – загадка...". // "Літаратура і мастацтва" №31, 1 жніўня 2003 года).*

### 12.У часы сацыялістычнага рэалізму крытыкаваў беларускія оперы за іх прымітыўную плакатнасць

"На жаль, многія беларускія кампазітары маюць цьмянае ўяўленне пра герояў сваіх твораў. Пры сустрэчы з імі ў оперы яны хаваюць сваё няведанне і няўменне вызначыць рысы характару герояў за старымі, звыклымі прыёмамі малюнка нейкага абстрактнага опернага героя. /.../ Адарванасць ад жывога слова /.../ зрабіла няўдалай і бясколернай музычную мову Кастуся Каліноўскага – героя оперы Д.Лукаса *(гэтым спектаклем быў адкрыты першы пасляваенны сезон Беларускага опернага тэатра ў 1947 г. – **В. Дэ Эм**)*. Кампазітар спрабуе ставіць свайго героя ў становішча кіраўніка мас, але ў зносінах з народам Кастусь Каліноўскі выглядае толькі сумным рэзанёрам. Слабасць і інтанацыйная беспадстаўнасць музыкі оперы "Кастусь Каліноўскі" сведчыць пра няўвагу кампазітара да законаў опернай драматургіі і беларускага народна-песеннага матэрыялу" *(А.Богатырев. "О белорусской музыке". // "Советская Белоруссия" №5, 6 января 1952 года).*

### 13.Нагадваў П'ера Бязухава і захапляў сваёй пластычнасцю

"Я памятаю Анатоля Васільевіча з 1948 года. Тады яму было 35 гадоў. Ён уражваў сваёй энергіяй, імклівасцю рухаў. Быў падобны да П'ера Бязухава, калі ішоў па вуліцы ў доўгім расхінутым цёмна-сінім плашчы, з закладзенымі за спіну рукамі, глядзеў угору і бесперапынна варушыў вуснамі…". "А.В.Багатыроў /.../ выдатна валодаў сваім целам, лёгка танцаваў. Варта было паглядзець на яго, як ён у пары з Л.П.Александроўскай на яе юбілеі прайшоўся ў паланэзе!" *(Белькевич С.О. "А.В.Богатырев: штрихи к портрету". // "Весці Беларускай дзяжаўнай акадэміі музыкі" №20, 2012).*

### 14.У Берліне яго раздражнялі кампазітар Бенджамін Брытэн і класік авангарднай музыкі Штокгаўзен

"...Опера "Сон у летнюю ноч" (па Шэкспіры) сучаснага англійскага кампазітара Бенджаміна Брытэна выклікала незадавальненне. У ёй пераважае ў асноўным ілюстрацыйная музыка, адсутнічае канкрэтны меладычны матэрыял, без якога оперны твор не можа наогул існаваць. /.../ Творы Штокгаўзена адшурхоўваюць адсутнасцю ў іх усякай мелодыі і яснай гармоніі. Штокгаўзен – адзін з лідараў заходнееўрапейскага дадэкафанізму, дзе сама музыка знікае і застаецца адзін сумбур" *(А.Багатыроў. "На музычным фестывалі ў Берліне". // "Літаратура і мастацтва" №96, 5 снежня 1961 года).*

### 15.Ад савецкай рэчаіснасці ратаваўся кнігамі Рэмарка

"У апошні час з'явіўся новы тэрмін – "рэмаркізм". Азначае ён сацыяльную бесперспектыўнасць, адзіноцтва, закінутасць – рысы, уласцівыя творчасці таленавітага песняра "страчанага пакалення" Рэмарка. Тым не менш Рэмарк – адзін з найбольш любімых у нас пісьменнікаў Захаду. Прычына – насычанасць і багацце ўнутранага свету жыцця яго герояў, глыбіня і тонкасць разважанняў пра жыццё, амаль заўсёды вельмі лаканічных, надзвычай прывабных для чытачоў. Часта гэтыя разважанні аднабаковыя і не адпавядаюць нашаму светаадчуванню, але вабіць сама манера мыслення рэмаркаўскіх герояў, іх успрыняцце рэчаіснасці. Герой Рэмарка /.../ адзінокі, ён ні на хвіліну не можа забыць пра сябе. Гэтая індывідуальнасць не можа пераадолець сябе, але яна яркая. І чым яна ярчэйшая ў такіх герояў, тым больш яны адзінокія" *(А.Багатыроў. "Сэрца мільёнаў падслухаць біццё". // "Літаратура і мастацтва" №29, 11 красавіка 1961 года).*

### 16.Радаваўся развалу СССР і разам з тым быў прыхільнікам манархіі

"Единственное, что помню о Союзе: в магазинах ничего не было, люди часами стояли в очередях и жили впроголодь. Как можно страдать по "железному занавесу", нищенской жизни, разрушению храмов? Я считаю, если что и вернет нам духовную общность, так монархия" *(Мария Куновская. "Анатолий Богатырев: "Мне везло со знакомствами..." // "Аргументы и факты" №2, январь 2001 года).*

### 17.Лічыў Леніна і Сталіна псіхічна хворымі

"Сталін быў хворы чалавек, вар'ят. Падумаць толькі: мільёны чалавек – ворагі народа. Але ён быў і добрым вучнем Леніна: і той атрымліваў асалоду ад падобнага, – і, удаючы цяпер ужо картавую манеру "правадыра рэвалюцыі", майстра зноўку дэкламуе: "Иосиф Виссарионович, вы уже три дня в Екатеринбурге и ни одного человека еще не расстреляли..." *(Андрэй Гуцаў. "Усмешка майстра". // "Культура", №9, 2 сакавіка 1994 года).*

### 18.Яго любімы гістарычны персанаж – Жанна д'Арк

"Ён памятаў усе даты і імёны. Памятаў нават колер вачэй сваёй улюбёнай гераіні Жанны д'Арк. Калі ён расказваў пра яе, у яго ў вачах стаялі слёзы. Мог апісаць ва ўсіх падрабязнасцях уезд у Рым на калясніцы прынцэсы Беранікі, як у яе развяваліся валасы і блішчэлі вочы. Здавалася, што ён сам прысутнічаў пры гэтым" *(Белькевич С.О. "А.В.Богатырев: штрихи к портрету". // "Весці Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі" №20, 2012).*

### 19. Засмучаўся, што беларускія кампазітары не выкарыстоўваюць усе творчыя магчымасці хору Рыгора Шырмы

"Слухаючы беларускі хор, мімаволі прыходзіш да думкі, што мастацка-тэхнічныя магчымасці гэтага калектыву недаацэньваюцца беларускімі кампазітарамі. Так, напрыклад, вельмі мала скарыстоўваюцца ў творчасці поліфанічныя прыёмы. Між тым у беларускіх народных песнях мы сустракаем прыклады цудоўнага шматгалоснага спявання. Зусім незразумела, чаму большасць беларускіх кампазітараў, як правіла, абядняюць харавую фактуру, надзвычай абмежавана скарыстоўваюць багатыя магчымасці хору..." *(А.Багатыроў. "Жаданы госць". // "Літаратура і мастацтва" №14, 7 красавіка 1951 года).*

### 20. Марыў напісаць оперу паводле рамана "Людзі на балоце", у якой хацеў паказаць трагічны лёс сваёй радні

"Я хацеў бы напісаць оперу паводле раманаў І.Мележа пра калектывізацыю. Але пакуль што /.../ няма лібрэтыста. Я б, канешне, па-свойму ўгледзеўся ў гэты твор. Я б узмацніў трагедыю. І оперу я хацеў бы назваць "Ганна" *(Андрэй Гуцаў. "Усмешка майстра". // "Культура", №9, 2 сакавіка 1994 года).*

"Шмат гадоў я мару напісаць оперу паводле рамана Івана Мележа "Людзі на балоце". Опера пра /.../ страшнае злачынства, учыненае супраць сялянства. Да гэтай тэмы ў мяне асаблівыя адносіны /.../ У гады калектывізацыі раскулачылі і выслалі шасцёра братоў майго дзеда. З тых часоў нічога пра іх невядома. Тая ж доля спасцігла і бабуліных сваякоў" (Ольга Савицкая. "Анатолий Богатырев: "Мои планы – написать новую оперу и увидеть, как начнется XXI век". // "Народная газета" №174, 4–6 верасня 1993 года).

**Васіль Дэ Эм.**
(Радыё "Свабода".)

*Васіль Дэ Эм (Васіль Драньцо-Майсюк) – драматург, акцёр, дзіцячы педагог, мастак.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Не бачу дрэннага нічога, што «чалавек прыдумаў» Бога

Вучоныя даказалі, што вернікі жывуць у сярэднім на чатыры гады больш, чым атэісты.

*Мы не паклонімся богу,*
*Бога стварыў чалавек.*
***Кандрат Крапіва***

Мне не забыць, бадай, ніколі
(Напэўна, помніце і вы),
Як дружна мы зубрылі ў школе
Ідэйны вершык Крапівы.
Дый быў наказ ад педагога,
Каб мы запомнілі навек:
Нямашака на свеце бога,
Яго прыдумаў чалавек.
Рэспект Кандрату быў бы
шчыры
Прыняў бы словы Крапівы,
Ды болей на гады чатыры
Жывуць прыхільнікі царквы.
Як вера ў Бога – забабоны,
Дык кожны запытацца б мог:
А хто ж ім выдаў гэткі бонус,
Калі не ўсемагутны Бог?
І гэтым бонусам, паверце,
Усім намёк зрабіў Гасподзь:
Жадаеш больш пажыць на свеце,
Дык бокам храм не абыходзь.
Мне запярэчаць атэісты
І падтрымаюць Крапіву:
Рэлігія – падман кваціcты,
Папы нам дураць галаву;
Даўжэй у вернікаў дарога,
Жывуць яны настолькі шмат,
Бо, баючыся вельмі бога,
Вядуць жыцця здаровы лад;
Яны не смокчуць цыгарэты,
Не п'юць гарэлку наўзахлёб,
У жарсцях існыя аскеты,
Бо гэта ўсё ім раіць поп;
Жыццё прадоўжыць
прыхаджанам
Дапамагаюць і пасты,
Бо для здароўя пажадана,
Каб страўнік зрэдчас быў пусты;
Дык кожны вернік, зразумела,
Пазней сыходзіць на спачын:
Ён дбайна рупіца пра цела,
І бонус бога ні пры чым.
Гавораць праўду атэісты.
Але не толькі ў гэтым рэч,
Бо вернікі і дух нячысты
З душы імкнуцца выгнаць прэч,
Шануюць запаведзі строга –
І не забі, і не скрадзі,
Бо прыйдуць некалі да Бога –
Свайго галоўнага суддзі.
У іх жыцці ёсць сэнс і мэта,
Душой мацнейшыя ўтрая.
Хіба ж, скажыце, дрэнна гэта?
Хіба ж не велічна? І я
Не абуру, бадай, нікога,
Не ўспрымуць вернікі як здзек:
Няблага, калі нават Бога
Стварыў калісьці чалавек…

### Леў і Бык

*Байка*

Парашылі Леў і Бык,
Што пара зрабіць ім "глык".
На расквечанай паляне,
У шыкоўным рэстаране,
Дзе духмяны пах лясны,
Месца выбралі яны.
Для працяглай пасядзелкі
Заказалі шмат гарэлкі.
Добра так яна ішла!
І не ўсталі б з-за стала
Аж да самае начы,
Перш чым рушыць на спачын,
Ды дала сігнал "мабіла" –
Львіца мужу пазваніла.
Леў пачуў яе загад:
– Дзе ты боўтаешся, гад?
З кімсьці п'еш ужо, вядома.
Каб праз тры хвіліны дома,
Валацуга, быў як штык!
З тэлефона – страшны рык
І няма канца пагрозам.
Леў адразу стаў цвярозым,
Ён – як школьнік вінаваты.
– Пабягу хутчэй дахаты.
А гарэлку ты, Бугай,
З кімсьці іншым дапівай.
Леў адразу б і пабег,
Але Бык падняў на смех:
– Ты хіба смаркач-падлетак,
Каб баяцца жонкі гэтак?
Ледзьве, бачу, не самлеў –
Цар звяроў, магутны Леў!
Каб ты ведаў, у мяне
Жонка ходзіць па струне,
Ёй магу намяць бакі.
Леў жа даў адказ такі:
– Хто ў цябе, Бугай, "палова"?
Паслухмяная Карова.
Як агню, цябе баіцца.
А ў мяне "палова" – Львіца!
* * *
І тыран-дыктатар часам
У "паловы" пад абцасам.

ИЗ ПОЧТЫ ГЛАВНОГО РЕДАКТОРА

# Почему мой 20-летний труд после выхода на пенсию государством вообще не отмечен?

Уважаемая редакция газеты «Народная Воля»!

К вам обращается гражданин Республики Беларусь с 1978 года Уруил Дмитриевич Ашуров.

В 1997 году, работая на одном из предприятий г.Минска, я оформил пенсию по возрасту, но продолжал трудиться еще полных 20 лет.

В феврале 2018 года обратился в Партизанское отделение социальной защиты г.Минска с просьбой о пересмотре моей пенсии в связи с дополнительно отработанными годами, предоставив расчетные листы за все 20 лет. Мне ответили, что в соответствии с Законом Республики Беларусь «О пенсионном обеспечении», принятом в апреле 1992 года, нет законных оснований решить этот вопрос положительно.

Считая, что правовую оценку указанному закону может дать лишь Конституционный суд, я обратился в этот высший орган. Ответ меня удивил и повергнул в недоумение. Оказывается, что для граждан РБ установлен лишь косвенный доступ к конституционному правосудию.

Я обратился в Администрацию президента Республики Беларусь с просьбой рекомендовать Конституционному суду рассмотреть мое дело, так как в новейшей истории страны такого случая не было. Но из Администрации президента мое обращение попало в Министерство социальной защиты, которое не могло да и не желало решить поставленный мною вопрос.

И вот представьте себе: я 20 лет после ухода на пенсию ежемесячно выплачивал государству налоги в объеме шестой части заработной платы (а пенсия составляла 30% от этой суммы). И **никто** из чиновников не догадался хотя бы сказать мне спасибо за этот труд.

Недавно Эстония приняла новый закон «О пенсионном обеспечении» и, видимо, он у них не первый.

Так почему же мы застряли на законе 1992 года? Мое личное мнение такое:

1.Закон РБ «О пенсионном обеспечении» от 17 апреля 1992 года явно устарел и не учитывает реалий сегодняшнего дня.

2.Закон принят и подписан ныне не существующим Верховным Советом РБ.

3.Закон был принят до принятия новой Конституции РБ и не вписывается в президентскую форму правления.

Создается впечатление, что кому-то выгодно не пересматривать этот очень важный для миллионов людей закон.

Я задаюсь вопросом: неужели многолетний добросовестный 20-летний труд рабочего человека после ухода на пенсию нигде не учитывается и в моей стране ничего не значит?

К сведению редакции. Чтобы у вас не возникло мнения, что пожилой 60–80-летний работник висел балластом на шее предприятия, запишите мне в актив две почетные грамоты от «мэров» г.Минска (М.Я.Павлова – в 2004 году и от А.В.Шорца – в 2016 году).

**С уважением к редакции – У.Д.АШУРОВ.**

***ОТ РЕДАКЦИИ***

Согласитесь, письмо У.Д.Ашурова заслуживает внимания всех ветвей власти. А потому редакция его и адресует им для рассмотрения.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Чаму разводзіцца Рыта Дакота?

*Краем вуха зачапіла навіну пра тое, што беларуская спявачка Рыта Дакота (сапраўднае імя Маргарыта Герасімовіч) паведаміла пра цяжкі развод з мужам, артыстам Уладам Сакалоўскім. Год таму ў сям'і нарадзілася дачка Мія. Многія лічылі іх ідэальнай парай. Рыта нарадзілася ў Мінску, вельмі таленавітая дзяўчына. Распавядзіце, калі ласка, што ў іх здарылася?*

**Ніна МАРГУЛЬ, пенсіянерка.**



*"Мне вельмі складана казаць гэта, але, каб пазбегнуць лішніх размоў і плётак у прэсе, я абавязана*, – так паведаміла Рыта Дакота праз сацыяльныя сеткі пра свое праблемы ў асабістым жыцці. – *З велізарнай горыччу і болем у сэрцы паведамляю, што мы з Уладам Сакалоўскім разводзімся. Усё, што здавалася прыгожай карцінкай, сям'ёй, адданасцю і любоўю, аказалася такім толькі для мяне адной у нашай пары. З самага пачатку і да канца для мяне гэта было па-сапраўднаму, таму я пайшла ад мужа адразу ж, як даведалася пра яго двайное жыццё.*

*Аказалася, што Улад здраджваў мне на працягу ўсіх нашых адносін, здраджваў, калі мы жаніліся і вянчаліся, і нават калі я была цяжарная. Гэта былі дзясяткі дзяўчат, многіх з іх я ведаю асабіста, многія з іх былі маімі «прыяцелькамі», былі ў маім доме".*

Пра тое, што адбываецца, ведалі многія. У тым ліку і бацька Улада Сакалоўскага.

*"Я разумею, што гэта гучыць як сцэнарый фільма жахаў, гэта гучыць неверагодна, і я ніколі б не паверыла ў гэта сама, калі б не было ў мяне жалезных доказаў, але, на жаль, гэта горкая і страшная праўда*, – гаворыць Маргарыта. – *Мой свет ніколі не будзе ранейшым, аднак мне давядзецца перажыць гэта дзеля дачкі.*

*Улад – бацька майго дзіцяці, і мне давядзецца шукаць у сабе сілы і мудрасць, каб у Міі быў тата. Калі-небудзь гэты боль сціхне, і я паспрабую дараваць яму і зноў з ім загаварыць. Цяпер у нас адбываецца падзел маёмасці, і мне патрэбны сілы каб адстаяць справядлівасць у імя нас з Міяй".*

Прызнанне Рыты Дакоты выклікала проста шквал каментарыяў са словамі падтрымкі. Некаторыя распавядалі пра тое, як самі перажылі здраду, давалі парады.

*"Дзякую ўсім за падтрымку і спагаду!* – адказала Рыта. – *Я ў шоку ад таго, колькім цудоўным моцным жанчынам мая сітуацыя аказалася блізкай і сугучнай, мне балюча чуць гэта, я хацела б абняць кожную з вас… Я напісала пост пра развод не для таго, каб мусоліць гэту тэму, а для таго, каб пакінуць за сабой права быць сумленнай і казаць праўду, як я рабіла заўсёды. У рэшце рэшт, гэта адзінае, чаго ў мяне ніколі не адняць.*

*Спачуваць мне больш не трэба, я афіцыйна адмаўляюся быць ахвярай у гэтай сітуацыі і сілкавацца жалем таксама не маю намеру. Я сапраўды не збіраюся праз прызму свайго болю выносіць гэту брудную бялізну напаказ, тыкаць пальцам, пералічваць імёны і выкладваць доказы, хайпіцца на сваім разбураным шлюбе я не стану.*

*Таксама прашу не пісаць гадасцяў і праклёнаў на адрас Улада. Мой боль аднойчы сціхне, і застанецца толькі падзяка за рост, за вопыт, за ўсё светлае, што было ў мяне да яго, і, нарэшце, за самую галоўную каштоўнасць нашага саюза – за нашу дачку. Маё стаўленне да яго як да мужчыны – мая асабістая справа, але маё стаўленне да яго як да бацькі майго дзіцяці заўсёды будзе ў вышэйшай ступені паважлівым. Улад і Мія праводзяць час разам, і, я спадзяюся, так будзе заўсёды.*

*Я хачу мірнага разводу і веру, што нам хопіць мудрасці паводзіць сябе максімальна па-людску".*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК.

### Не працуе смартфон

*У мяне зламаўся смартфон. Гарантыя скончылася, у дакументах пазначаны тэрмін службы 3 гады (але 3 гады яшчэ не прайшлі). Ці магу я вярнуць грошы альбо запатрабаваць замены тэлефона? Што рабіць?*

**Валерый ЛЕШЧАНКА, г.Навагрудак.**

– У гэтым выпадку права на замену тавару належыць спажыўцу. Звярніцеся да арт.20 Закона аб абароне правоў спажыўцоў.

### Навушнікі – тэхнічна складаны тавар?

*Ці адносяцца навушнікі для тэлефона да тэхнічна складаных тавараў бытавога прызначэння? І ці можна вярнуць грошы за іх на працягу 14 дзён, калі навушнікі неналежнай якасці?*

**Віктар ЗІНЧАНКА, Брэст.**

– Калі навушнікі ідуць у камплекце з тэлефонам, замена ідзе таксама разам з тэлефонам. Калі набылі асобна ў рознічнай сетцы, то можаце іх абмяняць ці вярнуць назад у магазін.

### Няўдалы ноўтбук

*Ноўтбук два разы быў у гарантыйным рамонце. Ці магу я абмяняць яго (у тым жа магазіне) на ноўтбук іншай мадэлі па тым жа кошце? Няспраўнасць была адна і тая ж…*

**Аляксей МІНЕЎСКІ, г.Рэчыца.**

– Можна – пры наяўнасці даведкі ад майстэрні, што ёсць істотны недахоп, які немагчыма ліквідаваць.

### Выбраць купальнік…

*Збіраюся ў адпачынак, хачу набыць купальнік. Ці можна яго прымераць у магазіне?*

**Валянціна ШЫДЛОЎСКАЯ, Мінск.**

– Нельга. Касметыку і ніжнюю бялізну наогул нельга ні вярнуць у магазін, ні абмяняць. Перш чым вырашыце купіць купальнік, удакладніце свае памеры.

### Звяртайцеся да эксперта

*Ці можна вярнуць (абмяняць на іншы) апарат для вымярэння ціску, калі мяне не задавальняе якасць яго работы?*

**Святлана МАЗУР, г.Маладзечна.**

– Вызначыць якасць апарата можа толькі эксперт. Калі будзе станоўчае для вас заключэнне, вам вернуць грошы за тавар.

### Адрамантаваць відэарэгістратар

*Планую аддаць у рамонт відэарэгістратар без гарантыі. Колькі часу яго могуць рамантаваць?*

**Аляксандр ЛЫКАЎ, г.Жодзіна.**

– Рамонт павінен быць зроблены на працягу 14 дзён.

### Абавязкі сэрвіснага цэнтра

*Ці павінен сэрвісны цэнтр паведаміць мне аб выкананні заказу па рамонце камп'ютара?*

**Валянцін КЛІМАЎ, г.Вілейка.**

– Так. Спасылайцеся на арт.5 Закона аб абароне правоў спажыўцоў, які патрабуе поўнага інфармавання спажыўца.

### Не спадабаўся электрачайнік

*Купіў у магазіне электрачайнік. Дома высветліў, што канструкцыя вечка нязручная ў карыстанні: дрэнна адчыняецца – яго пры гэтым можна зламаць. Прыехаў у магазін абмяняць тавар, але такога ж чайніка ўжо не было. Прадстаўнік магазіна адмовіўся вяртаць грошы, прапануючы абмяняць на іншы тавар. А іншы мне не патрэбны. На чыім баку праўда?*

**Сяргей ПІНЧУК, Гомель.**

– На вашым, бо права выбару тавару належыць спажыўцу, а не прадаўцу.

### Што трэба ведаць пра экспертызу тавару?

*Растлумачце: ці можна мне прысутнічаць пры экспертызе тавару? Баюся, каб не падманулі…*

**Алег ЗАБЛОЦКІ, г.Слонім.**

– Пры правядзенні экспертызы запрашаюцца ўсе ўдзельнікі канфлікту. Пасля таго як складаецца акт тэхнічнай экспертызы, спажывец яе аплачвае.

ХОБІ

# Апантанасць Віктара Шыхава

*Трэці год у Цэнтральным доме афіцэраў на базе бібліятэкі дзейнічае шахматны клуб "Дэбют".*

Яго арганізатар – кандыдат у майстры спорту В.П.Вераценнікаў. Работай клуба кіруе суддзя першай катэгорыі, шахматыст першага разраду Віктар Шыхаў. Дысцыплінаваны і ўраўнаважаны, ён з добрым азартам праводзіць заняткі, пры гэтым яму ўдаецца ўтрымліваць у ідэальным стане камплекты шахмат, гадзіннікі, падтрымліваць чысціню ў прасторным і добра асветленым памяшканні.

Рэгулярна раз на тыдзень, па чацвяргах, сюды спяшаюцца ўдзельнікі цікавых заняткаў, сустрэч, турніраў. Некаторыя дабіраюцца, адольваючы нямала вёрстаў і трацячы багата часу на дарогу. Да прыкладу, Ігар Гулік прыязджае з Мар'інай Горкі, Вячаслаў Папоў – з Раўбічаў.

"Дэбют" аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах 24 шахматыстаў, з іх шасцёра – кандыдаты ў майстры спорту. Людзі ўсе бывалыя, вопытныя, выхаваныя. Скажам, Расціслаў Бузук – прафесар, навучае студэнтаў, чытаючы ім лекцыі. Кандыдат у майстры спорту, яшчэ юнаком паспяхова гуляў з паэтам-класікам Аркадзем Куляшовым, моцным, непераможным у тагачасным Саюзе пісьменнікаў гульцом, да фанатызму ўлюбёным у шахматы. Не баяўся часам згуляць партыю і з самім Гаўрыілам Верасавым, знаным майстрам спорту, чэмпіёнам Беларусі.

За кароткі час В.Шыхаву ўдалося згуртаваць баяздольную каманду. Ім праведзена больш за 120 турніраў, шэраг матчаў. Сёлета, вясной і летам, зладзілі тры матчы з камандай Шахматнага дома (галоўны трэнер – кандыдат у майстры спорту Віктар Барскі). У першым з іх было задзейнічана па дзевяць гульцоў з абодвух бакоў. Усе тры туры завяршыліся перамогай "Дэбюту", агульны лік – 21,5:5,5.

Выдатна выступілі дзесяцігадовыя хлопчыкі Усевалад Ранчанка і Макар Брыцікаў, яны набралі адпаведна тры і два ачкі.

Наступным разам каманда Шахматнага дома прымала гасцей – 11 гульцоў "Дэбюту". У згуляных чатырох турах таксама перамаглі прадстаўнікі каманды ЦДА, агульны лік матча – 33:11. Але юныя, як кажуць, далі бой. Толькі чацвярым з 11 гасцей удалося не страціць балы. Нават вопытны Вячаслаў Папоў недабраў паўтара бала, а Ігар Гулік – два. Міхаіла Кірэева перамог васьмігадовы Сяргей Гаспаран, а ўнічыю з ім згуляў Мікіта Шаўчэнка. Ігар Гулік у першым жа туры "спатыкнуўся" на Льву Скрыбу. У трэцім матчы ўсіх уразіў сямігадовы Ігнат Шык, які ў трох сустрэчах узяў два ачкі. Такія спаборніцтвы прыносяць карысць як юным, так і ветэранам.

Вядома, у рабоце шахматнага клуба галоўным заняткам, які трымае спартсменаў у тонусе, з'яўляецца гульня кожнага з кожным. Так ажыццяўляецца пастаянны агляд магчымасцяў каманды, выяўленне спартыўнай формы гульцоў. Але кіраўнік "Дэбюту" не замыкаецца ў сваіх сценах, а знаходзіць цікавыя кантакты. Многія надоўга запомняць сустрэчу з Я.Мачалавым, міжнародным майстрам, двухразовым чэмпіёнам Беларусі, трэнерам і суддзём вышэйшай нацыянальнай катэгорыі, які ўсім прысутным распавёў пра бурлівае шахматнае жыццё ў нашай краіне і ў свеце, а таксама пра новыя правілы прывабнай і захапляльнай старажытнай гульні. Не меншую цікавасць выклікаў і сеанс адначасовай гульні на 12 дошках, які даў М.В.Шыхаў, з вынікам 11,5:0,5.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

У Бабруйску падатковая інспекцыя рэкамендавала рэстаранам і кафэ, дзе праводзяцца вяселлі, кантраляваць аплату падатку ўсімі вядучымі, артыстамі і фатографамі. Установы адмовіліся, аргументуючы сваю пазіцыю тым, што яны заключаюць дамову толькі з маладымі.

Супрацоўнікі падатковай інспекцыі, відаць, не разгубіліся і папрасілі ў кафэ і рэстаранаў графік запланаваных вяселляў.

ПРОВЕРЕНО НА СЕБЕ

# Как я добавила еще одну серию в американский сериал «Скорая помощь»

*Во время пребывания в Америке мне довелось на себе испытать действие американской системы здравоохранения. Однако, несмотря на неприятный повод, об этом ничуть не жалею. Это была одна из самых захватывающих "экскурсий" моего путешествия. Оговорюсь: более-менее спокойно общаться с врачами мне позволила гостевая страховка, оформленная моими американскими друзьями.*

Я летела в Чикаго с главной мыслью: наконец-то – впервые за последние 30 лет – смогу в день рождения моей школьной подруги Кати лично поздравить и обнять ее. Но, видимо, взяла слишком резвый старт: 11-часовой перелет до Чикаго, 12-часовое путешествие на машине в город Луивилл (штат Кентакки – именно так произносят его название американцы) и обратно и наконец вроде бы сущая мелочь – час езды на Uber до Хайленд-Парка, предместья Чикаго. Подозреваю, что поток ледяного воздуха из кондиционера в этой машине и поставил последний штрих в картине моего самочувствия, определив дальнейшее развитие событий.

С утра тянуло под левой лопаткой, днем боль отчетливо локализовалась в груди слева, стала усиливаться, и к вечеру, сидя за праздничным столом, я поняла, что не могу не то что есть, но и говорить и даже дышать – так было больно. День рождения подруги я уже испортила, не хватало еще чем-нибудь посерьезнее омрачить дальнейшее проживание всей семьи в доме! Я приняла предложение Катиного мужа Андрея обратиться в местный госпиталь.

…Сразу за входными дверями в холле госпиталя стояли несколько инвалидных колясок. «Садись!» – скомандовал Андрей. Я хихикнула: нашел время для шуток! Но оказалось, что таково правило: пациента в отделение скорой помощи привозят в кресле на колесах. Дурацкое ощущение: в этом виде транспорта можно не ежась ездить, если ты либо инвалид, либо без сознания.

После выяснения необходимых формальностей, краткого опроса о причине обращения мне надели на запястье эластичную ленту с моими данными и штрихкодом, и мы покатили в отделение. Оказывается, как в том анекдоте про Санта-Барбару, в которой мы всех знаем, у меня было очень точное представление об американских больницах – сериал «Скорая помощь» дает абсолютно реалистичную картину: «палаты», разделенные занавесками, ситцевая распашонка с завязочками на спине… Андрей оставался со мной и переводил.

Врач, очень симпатичная молодая женщина, спросив мои имя и дату рождения, подробно расспросила об ощущениях, которые я испытываю, о том, бывало ли со мной такое раньше, не было ли у моих родственников заболеваний сердца... Ее явно обеспокоило известие, что мой папа умер от инфаркта. Нужно проверить работу сердца, объяснила она, убедиться, что у меня не закупорены сосуды и нет проблем с легкими, а также инфекции. Удостоверившись, что я поняла то, что перевел мне Андрей, она ободряюще улыбнулась и ушла.

Из-за занавесок стали один за другим появляться приветливые медсестрички и медбратики: брали анализ крови, делали ЭКГ, измеряли давление, ставили катетер для инъекций… Каждый делал какую-то одну манипуляцию и тут же исчезал. Прежде чем прикоснуться ко мне, они спрашивали мои имя и дату рождения, затем подробно объясняли, что именно сейчас будут делать, заканчивая свою тираду вопросительным «O'kay?», и не приступали к манипуляции, пока не получали моего утвердительного ответа (так в дальнейшем поступал каждый медицинский работник, который ко мне приближался). То ли они действительно все были очень хорошенькие, то ли мне так виделось, так сказать, на пороге Страны вечной охоты, но, когда зашла очередная красотка с точеной фигуркой в госпитальной униформе, я спросила: «Передо мной что, решили провести конкурс красоты госпиталя?» Андрей сразу же перевел мои слова. Девушка обернулась с обворожительной улыбкой: «Oh, she's so sweet!» В дословном переводе это «О, она такая сладкая!», что у нас было бы воспринято с известной долей сарказма или непонимания, но у американцев это означает: она такая милая, приветливая, дружелюбная. А пропетое с определенной интонацией «Ooooh!», выражающее расположение, умиление, восхищение, признательность, я слышала в Америке повсюду.

Периодически ко мне заходила женщина постарше, видимо, медсестра рангом выше, и комментировала ход обследования: «Мы взяли анализы на предмет инфекции, они будут готовы через некоторое время, затем мы сделаем кардиограмму, компьютерную томографию, и по результатам обследования доктор поставит диагноз…»

Следующим ко мне «в гости» зашел улыбчивый молодой человек, который повез меня на каталке (ногами вперед) на томографию. (На этом транспортном средстве чувствуешь себя еще нелепее, чем в инвалидной коляске.) Андрей шел рядом с моей «скорбной колесницей» и переводил: «Есть ли у тебя аллергия на какие-либо препараты? Проходила ли ты ранее обследование на томографе? Сейчас тебе сделают инъекцию, после которой станет очень жарко и будет ощущение, будто ты – извини! – опИсалась. Но оно скоро пройдет». Меня переложили на платформу томографа, медбрат сделал инъекцию, и они с Андреем вышли из комнаты. Через некоторое время появились обещанные ощущения, внутри кольца томографа вокруг меня несколько раз прокрутилась красная лампочка…

«Он спрашивает, как ты себя чувствуешь?» – услышала я над головой. Медбрат опять заговорил с участливым и обеспокоенным выражением лица. «Может быть, тебе холодно?» – перевел Андрей. «Да, немножко ноги замерзли». Меня подвезли к стене, молодой человек открыл какую-то незаметную дверцу… и заботливо укутал меня согретым до комфортной температуры фланелевым пледом. Я пискнула от удовольствия: стало спокойно и уютно, исчезли смущение и страх непонимания.

Через некоторое время после возвращения в отделение ко мне зашел еще один врач – мужчина средних лет. Последовали те же вопросы. «Проведенные обследования показали, что шансов умереть от инфаркта – по крайней мере сегодня – у тебя ничтожно мало. Инфекции не обнаружено. Закупорки сосудов нет, и легкие тоже в норме, – переводил Андрей. – Они считают, что, вероятнее всего, причина боли – воспаление мышц вокруг сердца. Это могло быть вызвано долгим пребыванием в неудобном положении, поднятием тяжестей, простудой… Однако, учитывая некоторые факторы, в том числе наследственность, доктор считает, что тебе лучше остаться в госпитале до утра: ночью они проведут еще кое-какие исследования, сделают эхокардиограмму, проконтролируют реакцию на лечение. Они предлагают, но ты можешь отказаться». Поскольку боль не отпускала, я согласилась.

Палата – это помещение площадью «квадратов» 20: огромная больничная кровать, куча всяких приспособлений на стене. Диван и кресло у окна раскладываются, посетители могут находиться в палате когда и сколько посчитают нужным, отдыхать в удобном положении. На стене напротив кровати большой плоский телевизор. В санузле унитаз, биде, умывальник, душ (кстати, в американской больнице нет необходимости прицельно мочиться в баночку – на унитаз надевается насадка-емкость, и моча для анализа собирается в результате привычного и комфортного справления малой нужды).



Обычная палата в американском госпитале.

На тумбочке лежал листок бумаги примерно с таким текстом (переведено через интернет-переводчик): «Только для вас. Эта комната и ванная были убраны сегодня. Я хочу убедиться, что они регулярно убираются во время вашего пребывания у нас. Работник: Нора *(вписано от руки)*».

Кровать оборудована боковой панелью с кнопками управления, те же кнопки продублированы на пульте с гибким проводом. Можно регулировать угол подъема верхней части туловища и ног, управлять надувным массажным матрацем (он перекатывается под вами, предотвращая застой крови и образование пролежней), включить телевизор, вызвать медсестру. Возможно, еще что-то, но до конца я эту технику не освоила.

Вошедшая медсестра представилась: «Элейн. Я буду за вами ухаживать до 4 часов утра». Меня переодели в распашонку другого цвета с кармашком на груди – как выяснилось потом, для холтера, который деловито и споро прикрепили мне на тело две медсестрички. На указательный палец мне нацепили пластмассовый датчик-прищепку. Затем Элейн объяснила, что сейчас мне на ноги наденут компрессионные гетры, которые будут препятствовать образованию тромбов. Их обернули вокруг моих ног ниже колена и подключили к устройству на нижней спинке кровати. Это чудо-приспособление всю ночь сжимающими движениями снизу вверх массировало мне голени – очень приятно!

Боль немножко ослабла, Андрей был со мной, вскоре прилетела и страшно обеспокоенная Катя: «Ты же ничего не успела съесть! Поэтому вот, вот и вот!» – на передвижном столике-подносе стали появляться баночки и коробочки с едой… Было весело, неловко из-за испорченного дня рождения и страшно любопытно, что будет дальше. Элейн предупредила: в течение ночи меня несколько раз побеспокоят, чтобы сделать еще кое-какие исследования. «Окей?» – «Окей!» Убедившись, что я накормлена, жизнерадостна и со мной все будет в порядке, Катя с Андреем согласились поехать домой. Я осталась одна.

Ночью проснулась от стука в дверь. Спросонок ничего не ответила. Стук повторился, и только после того, как я, прокашлявшись, громко сказала «Йес!», в палату вошла медсестра. (Это повторялось несколько раз – персонал входил только после того, как я разрешала это сделать.) Она стала говорить, показывая какой-то флакон. Увы, я ее не понимала. К горлу подступила паника: кажется, я переоценила себя. Зачем я осталась, если не могу понять, что они от меня хотят? Или давать согласие на всё подряд?.. «One minute», – произнесла сестричка и вышла из палаты. Очень скоро она вернулась, держа в руках телефонный аппарат с двумя трубками. Подключив его где-то сбоку от кровати, она сняла одну трубку, произнесла «Рашн» и протянула мне вторую. «Здравствуйте, меня зовут Ринат, – услышала я. – Я буду переводить вам то, что говорит медперсонал, а им – ваши ответы. Хорошо?» «Хорошо…» – выдавила я, едва не онемев от восхищения простотой и элегантностью решения.



Телефон-полиглот.

На протяжении ночи у меня брали кровь на анализ в пять разных пробирок, снимали кардиограмму, производили еще какие-то манипуляции – при этом от меня требовалось только называть свои имя и дату рождения и отвечать согласием на вопрос «Окей?»: все необходимые аппараты и приспособления подвозились на тележках прямо к кровати.

Когда стало светать, пришла приятная женщина средних лет. «Здравствуйте! – сказала она по-русски. – Меня зовут Наташа. Я работаю в другом отделении, но меня попросили прийти, чтобы мы с вами могли выбрать меню на завтрак». И она раскрыла передо мной цветной буклет, в котором каждый пункт был проиллюстрирован красочной картинкой. Выбранные мной блюда она обводила шариковой ручкой. Конечно, ярче всего я отреагировала на слово «желе» – в любом американском фильме, где есть сцена в больнице, пациенты едят желе. Куда же без него?!

Часов в 8 мне принесли завтрак. Все блюда были в герметичной фабричной упаковке. В груди я чувствовала слабое подобие вчерашней боли.

Затем пришел доктор, невысокий, очень серьезный азиат в больших роговых очках – этакий Знайка из советского мультика, и приятная медсестра средних лет. В очередной раз узнав мои имя и дату рождения, он деловито снял трубку телефона и дал мне другую. «Здравствуйте, меня зовут … *(имя я не запомнила)*, – произнес мужской голос с выраженным кавказским акцентом. – Я доктор этого госпиталя. Буду переводить вам и, возможно, выскажу свое мнение». «Знайка» вновь задал мне те же вопросы, что и предыдущие врачи, озабоченно заглядывая в бумаги, прикрепленные к планшету, как будто сверяя мои ответы с написанным. Он подтвердил, что причиной боли было воспаление мышц (голос в трубке добавил: «И я согласен с диагнозом»), прописал ибупрофен и омепразол, чтобы защитить желудок, дал еще кое-какие рекомендации… Медсестра добавила, что скоро придет персонал, чтобы освободить меня от холтера, капельницы и катетера. Доктор с тем же серьезным видом пожелал мне приятного пребывания в Америке.

К этому моменту приехала моя подруга, которая пожелала сама поговорить с доктором, для чего она, недолго думая, нажала кнопку вызова на пульте. Тут же появилась недавняя медсестра, они с Катей очень приветливо пощебетали по-английски, медсестра вышла, и вскоре появился тот же врач. Он так же спокойно и дружелюбно поговорил с моей подругой.

Потом появился медбрат, по виду – индус или пакистанец. Он довольно-таки долго очень серьезно и проникновенно что-то втолковывал мне. «Он сейчас хочет отсоединить катетер, а потом, если ты позволишь, он снимет с твоего тела наклеенные датчики», – перевела Катя. Молодой человек отсоединил катетер, протер место укола, слегка помассировал его и застыл, вопросительно глядя на меня. «Он еще раз спрашивает, разрешаешь ли ты ему снять с тебя датчики». «Конечно!» Только тогда очень осторожными, деликатными движениями парень произвел эту манипуляцию.

Я уже переоделась, и мы сидели в палате, ожидая, когда нам принесут документы. В кабинет заглянул мужчина в деловом костюме, что-то спросил, Катя с обворожительной улыбкой ответила отрицательно. «Это юрист госпиталя, он интересуется, нет ли у тебя претензий».

Вошла давешняя медсестра. Она вручила мне бумаги, в которых было расписано все, что со мной делали. «Тебе следует показать это твоему врачу», – перевела Катя. Потом медсестра очень по-дружески расспросила, откуда я приехала, на сколько, что я уже успела увидеть и нравится ли мне в Америке. «Катя, скажи ей, пожалуйста, что, несмотря на очень неприятный повод, я безумно рада, что оказалась тут. Это очень сильное и абсолютно положительное впечатление. Я прошу передать всем, с кем я имела дело, а также руководству госпиталя мою безграничную благодарность». Женщина расплылась в улыбке и стала эмоционально говорить. «Она говорит, что ты очень симпатичный и веселый человек, им всем было приятно с тобой общаться и заботиться о тебе. Она желает тебе всего самого хорошего!» Было абсолютно естественным жестом обняться с ней. Катя сделала то же самое.

У двери палаты стояло все то же кресло на колесах. «По правилам тебя должны довезти на нем до самого выхода из госпиталя», – сказала моя подруга. «Кать, а можно без этого?» Мы выглянули в коридор – никого. Как сбежавшие с уроков школьницы, мы шмыгнули к лифту, озираясь и хихикая…

…Через день на адрес моих друзей из госпиталя пришло письмо, адресованное мне. В нем была открытка: «Спасибо, что позволили нам позаботиться о вас! Вся наша команда получила удовольствие, ухаживая за вами».

**Александра ЛОБЗОВА.**

ПРОТЕСТ

## Протесты в Румынии продолжались всю ночь

*В воскресенье вечером в Румынии началась третья волна уличных протестов из-за наступления правительства на антикоррупционные институции, в одном из городов демонстранты разбили палатку.*

*Об этом сообщает румынское агентство Mediafax.*

Как и во время субботнего митинга, протесты не ограничились столицей – люди вышли на улицу также в других крупных городах страны.

В Бухаресте снова речь шла о десятках тысяч демонстрантов, собравшихся на площади Виктории. В региональных центрах масштаб протестов был несколько меньшим, но тоже значительным.

Тысячи демонстрантов вышли на улицы городов Клуж-Напока, Констанца, Яссы, Сибиу. Менее многолюдные демонстрации прошли в других городах.

Особенностью воскресных демонстраций стало то, что небольшая часть активистов оставалась на улице всю ночь – об этом сообщают из Бухареста Клуж-Напоки. Так, около полуночи возле префектуры Клуж-Напоки было около 80 человек, которые разбили на площади перед государственным зданием палатку и потребовали встречи с префектом.

О значительных инцидентах во время митинга не сообщалось.

Напомним, во время столкновений на антиправительственном митинге, который состоялся 10 августа, пострадали 440 человек. Тогда полиция применила против митингующих слезоточивый газ и водометы.

МАРШРУТЫ

## Беларусы могуць без візы наведваць Кітай

*Пачало дзейнічаць міжурадавае пагадненне аб бязвізавым рэжыме.*

Згодна з дакументам, беларусы і кітайцы могуць без візы знаходзіцца адпаведна ў Кітаі і Беларусі на працягу 30 дзён у адной паездцы, але не больш за 90 дзён у годзе.

